# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 21 (35)* *16—22 ліпеня 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*

Эмігрантаў нарэшце **ЗАПРАСІЛІ ДАХАТЫ.** Нататкі з I Зьезду Беларусаў Сьвету.

Талеранцыя як **ВЫНІК КУЛЬТУРЫ.** Выступленьне народнага дэпутата РБ З. Пазьняка.

**БЕЛАРУСКІЯ СКАУТЫ** сьвяткуюць Купальле. Рэпартаж з летніка.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ** на тыдзень. Менск — Масква — Варшава.

## Ліда запрашае на сьвята

25 ліпеня ў Лідзе адбудзецца хвалюючая падзея — адкрыцьцё помніка Францыску Скарыне. Дзеля гэтай доўгачаканай падзеі многае зрабіла гарадская суполка Таварыства беларускай мовы, якую ўзначальвае Міхась Іванавіч Мельнік, дарэчы, дэпутат вабласнога Савету.

— У 1989 годзе ў нас узьнікла думка адкрыць у нашым горадзе помнік Скарыне,— апавядае Міхась Іванавіч,— Францішак Скарына — гонар нашай нацыі, нашай дзяржавы, чалавек з сусьветным імем, шляхі якога — жыцьцёвыя й творчыя — праходзілі праз Ліду таксама. Вось Лідзкая суполка ТБМ стала ініцыятарам збору сродкаў на помнік. Ня ўсе адразу ўспрынялі прапанову, была нават цэлая дыскусія на старонках лідзкай аб'яднанай газэты. Многія пісалі: навошта нам гэтыя помнікі, навошта ўвогуле культура, трэба каўбасы й сала.

Прыкра было такое чытаць... Але людзі ўсё-такі нас падтрымалі. Дапамаглі калектывы абутковай фабрыкі, завода «Оптык». Затым мясцовыя ўлады падключыліся. Міністэрства фінансаў, аблвыканкам, гарвыканкам далі грошы. І хоць цяжкасьцяў было шмат, урэшце 25 ліпеня ў Лідзе адкрываецца помнік — помнік Скарыне — у цэнтры горада. Гэта прыгожы манумэнт, зроблены маладым беларускім скульптарам Валерыем Янушкевічам. На сьвята прыедуць прадстаўнікі ўрада, мясцовых уладаў, госьці з-за мяжы, вядомыя артысты, пісьменьнікі.

Пачнецца сьвята ля старажытнага замку а 10-й гадзіне. Адкрыцьцё помніка — у 22 гадзіны — з фэервэркамі, рознымі гістарычнымі атрыбутамі тае эпохі.

Дарэчы, 24 ліпеня ў Лідзе пройдзе рэспубліканская навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная гісторыі Лідчыны.

**М. ДУБРАВІН.**

## У амэрыканскім стылі

У загараднай рэзідэнцыі пасла ЗША у Драздах 3 ліпеня адбыўся прыём з нагоды 217-х угодкаў незалежнасьці гэтай краіны. Прыём адбываўся з 13 да 15 гадзін. Прысутнічала каля двухсот чалавек: палітыкі, дзеячы культуры, дыплamaты. У ім удзельнічалі старшыня ВС Ст. Шушкевіч з жонкай, рэктар Мастацкай акадэміі В. Шаранговіч, мітрапаліт Філярэт.

Запрошаных чакала пачостка ў амэрыканскім стылі — адзінарныя хот-догі й гамбургэры (з адной палоўкай сасіскі й адной катлетай). З напояў пераважала амэрыканскае сьветлае піва ды белае вінагараднае віно. Для аматараў мацнейшага была затым прапанавана руская гарэлка.

Цікава, што рэзідэнцыя ў Драздах у якасьці лецішча раней належала Машэраву, потым Барташэвічу, Ігрунову й, магчыма, іншым менскім партыйным босам.



**Фота А. УЛАДАСЕВІЧА**

## Талеранцыя як вынік культуры

**25—26 чэрвеня ў Менску праходзіла міжнародная канфэрэнцыя, якую наладзіў Фонд імя Льва Сапегі, прысьвечаная пытаньням талеранцы. Мы ўжо зьмясьцілі адзін з дакладаў і нататкі пра яе. Прапануем цяпер выступленьне народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь З. Пазьняка.**

Можа здацца сімптаматычным, што канфэрэнцыя па талеранцыі адбылася ў Беларусі — краіне гістарычнай талерантнасьці й унікальных грамадзкіх узаемадачыненьняў, у краіне, якая некалькі стагоддзяў кіравалася ў сваёй дзяржаўнай дзейнасьці прынцыпам кансэнсусу (liberum veto) й па сёньняшні дзень спажывае яшчэ горкія разбуральныя плады гэтай мэханічна зразуметай ідэі й абсалютызацыі індывідуальнай свабоды.

Нашыя продкі, нашчадкі наймагутнейшай дзяржавы, стварылі ўнікальную культуру, карыстаючыся прынцыпам свабоды й цярпімасьці. Яны ж і страцілі гэтую дзяржаву, дазволілі растаптаць, расьцягнуць, абпляваць сваю культуру, давёўшы прынцып свабоды да мэханічнага ўжываньня, а цярпімасьць — да рабскага паніжэньня, якое ворагі нашага існаваньня называюць талерантнасьцю. Талерантнасьць магчымая паміж няроўнымі, непадобнымі зьявамі аднай прыроды. Але небясьпечная талерантнасьць са злом. Бо талерантнасьць схільная да прымірэньня. Прымірэньне ж са злом амаральнае, сьведчыць пра бясьсільле, вядзе да дэградацыі й выраджэньня.

Асноўныя паняцьці й іх дачыненьні вельмі важна высьветліць на ўзроўні ідэяў, каб ня мець потым клопатаў і бедаў у грамадзтве. Бо мы жывём у чалавечай супольнасьці, гэта значыць, у такім сьвеце, дзе першаснай зьяўляецца ідэя, а не быцьцё, не закон прыроды, які гэтая ідэя асэнсоўвае. Асэнсаваньне ж стала магчыма з развіцьцём культуры. Гэта тады, калі протачалавек навучыўся зьвязваць свае пражытае мінулае з будучыняй і стаў абмяжоўваць, стрымліваць сваю прыроду дзеля мэты. Такім чынам талеранцыя вынікае з гнасеалягічных падставаў культуры й зьяўляецца адной з важнейшых маральных ідэяў у чалавечым грамадзтве.

**(Працяг на 2-й стар.).**

Водгукі

## Бог вучыў нас любіць і дзяліцца...

Чытаю газэту «Пагоня» й дзіву даюся, як абыходзяцца мясцовыя гарадзенскія ўлады з жаночым базыльянскім кляштарам.

Разумею, што гаварыць ці, болей таго, шукаць праўду чалавека ў нашай краіне ня мае сэнсу. Гэта, магчыма, калі-небудзь прыйдзе да нас з гадамі. Але ж вуніятам адмовілі на свой храм і ці ж гэта не ганьба перад Богам? Дзіву даюся, як нецярпіма ставяцца праваслаўныя вернікі да таго, каб і грэка-каталіцкая вера мела магчымасьць стаць раўнапраўнай. І самае прыкрае, што адбываецца гэта ўсё зараз на Беларусі. Якая аб'явіла сябе самастойнай і незалежнай. Вось толькі сапраўднай беларускай рэлігіі — вуніяцтву — месца ў ёй не стае.

Чуў, што зараз на Гарадзеншчыне будуюць новыя касьцёлы, храмы для татараў, і дзякуй Богу, хай моляцца людзі. Толькі ці даруе сам Усявышні тое, што запаветы яго не выконваем, дзелім не пароўну і не па справядлівасьці.

**В. СЕГІНЬ,**
**пэнсіянэр.**

## Эмігрантаў нарэшце запрасілі дахаты

### 1. Вялікі тлум у Менскай опэры

8 ліпеня. Гістарычны дзень. Над уваходам у сталічны Акадэмічны тэатр опэры ды балету — транспарант з купалавымі радкамі «На сход, на ўсенародны сход!». Сюды ўпершыню зьехалася з розных краін наша эміграцыя на Першы Зьезд Беларусаў Сьвету. На ганку людна. Спатыкаеш айца Анатоля з Каложы. У вас абодвух няма запрашэньняў. Высокія груваснкія дзьверы вартуюць сталыя мужчыны з эмблемамі БЗВ на рукавах — дружына Згуртаваньня вайскоўцаў. На вуліцы імжыць халодны дождж.

Унутры праўдзівы вавілёнскі тлум. Віруе самая вялікая ў сьвеце беларуская «тусоўка». Ты заўважаеш мноства вядомых людзей: А. Мальдзіс, З. Пазьняк, В. Целеш, В. Кіпель, а. Я. Матусевіч... Побач цябе на цэнтральных усходах сам Ст. Шушкевіч з ахоўнікам, які пільна разглядаецца навокал. Са спадаром старшынём ВС размаўляе нейкая экзальтаваная з выгляду кабетка. Нехта падобраму жартуе: маўляў, тутака сабралася 80 працэнтаў усіх сьвядомых беларусаў сьвету.

Паўсюль велізарная колькасьць разнастайных друкаваных выданьняў, ад газэт да факсімільных кніжак і мастацкіх альбомаў. Тутака ж кэраміка, саломка, упамінкі, значкі, карціны (толькі за даляры). Але амаль ніхто нічога не купляе. Вельмі хутка пачынаеш сам адчуваць перасычанасьць усім адразу — тварамі, выданьнямі, народнай музыкай і строямі. Раз-пораз спатканьні, кароткія размовы. Але некаторыя знаёмцы нават зблізку не пазнаюць цябе, разгублена разглядаюць навокал.

**(Працяг на 2-й стар.).**



# ГРАМАДЗТВА

# Эмігрантаў нарэшце запрасілі дахаты

(Пачатак на 1-й стар.).

Адбываецца рэгістрацыя дэлегатаў. Доўгі хвост чаргі. Вольна толькі каля столікаў з шыльдачкамі «Францыя», «Аўстралія» й г. д. Сапраўды вавілёнскі тлум. Англа-, франка-, іспанамоўныя беларусы.

### 2. «Пагоня» ў фальклёрным выкананьні

У цэнтры прэзідыума зьлева направа спсп. Гілевіч, Краўчанка, Быкаў, Шушкевіч. На сцэне паяўляецца народны хор і замест «Мы, беларусы...» бадзёра зацягвае «Пагоню». Усе ўстаюць. Табе найбольш з усіх гімнаў даспадобы «Не загаснуць зоркі ў небе!». Хай бы сабе й «Пагоня». Аднак яе выкананьне на капыл, як гэта сьпявае народныя песьні калгасны хор, гукава дэфармуе сам твор. Гэта ўжо ня гімн, а штось накшталт «Бывайце здаровы!», толькі ў крыху менш вясёлым гучаньні...

### 3. «Мы скончаем са сваім самаедзтвам»

Першым гаварыў прэзідэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў. Ягоны выступ як заўжды повен болю за нашыя ня надта ладныя беларускія справы. Мы страцілі некалі сваю дзяржаўнасьць разам з ліцьвінскім назовам, ці не адсюль усе нашыя беды? Нацыя ў раськіданым стане й ня толькі ў гэапалітычным сэнсе. Няма ў нас таксама адзінства ў рэлігіі.

Войны, рэвалюцыі, гэнацыд. Ад рук чэкістаў з энкавэдыстамі загінула ня менш люду як зьнішчылі фашысты з паслугачамі (воплескі ў залі). Трасьцянец і Курапаты — раўназначныя назвы ў нашай гісторыі.

А ячшэ нядаўна гэроі Аўганістану лупцавалі веласіпэднымі ланцугамі дзяцей, якія сьвяткавалі ў цэнтры Менска Гуканьне вясны. Купальскія вогнішчы залівалі вадой з пажарных рукавоў. Усім памятны й разгон Дзядоў у 1988 г. у Менску. Усё гэта — канвульсіі ўласнага фашызму...

Дэлегаты зьезда на хвіліну ўсталі, каб ушанаваць памяць усіх, хто загінуў за Беларусь.

Ст. Шушкевіч выказаў стрыманае захапленьне тым, што беларусы разам са сваёй эміграцыяй упершыню без падказкі й без перашкодаў сабраліся, каб абмеркаваць беларускія справы. Ён не спадзяваўся такога ў наш час, хіба што мог марыць, каб гэтай падзеі дачакаліся дзеці або ўнукі.



Др Янка ЗАПРУДНІК (ЗША)

Мы ня маем права страціць свой гістарычны шанц, які выпакутаваны пакаленьнямі, мы павінны выкарыстаць яго й пабудаваць сувэрэнную нэйтральную Беларусь. Нельга сёньня аддаваць ініцыятыву ў іншыя, «зламанныя рукі, якія цягнуцца да ўлады». Ён заклікаў усіх «за работу!».

Н. Гілевіч сказаў, што гэты тэатр нікелі не поўніўся беларускімі галасамі, як сёньня. Каб гэтак уся Беларусь загучала! Але гэта пытаньне часу. Мы ўжо скончаем са сваім самаедзтвам, але наша дзяржава яшчэ ня стала беларускай. Рэч ня толькі ў мове, але таксама ж і сто разоў у ёй. Бо справа зрушыцца, калі ўсе да аднае паперкі з Рады міністраў пойдуць на беларускай мове. Ён таксама заклікаў не выпускаць з рук ініцыятыву дзеля таго, каб антыбеларускія сілы пацярпелі поўны крах.

### 4. Спадары-дабрадзеі

Як вядома, на правядзеньне зьезду Урад выдзяліў 60 млн рублёў. Як пры мне выказвалі здагадкі замежныя землякі, гэтага, мабыць, як на сёньняшнія кошты, хапіла хіба толькі на рэстаран ды гатэль. Дарэчы, удзельнікі зьезду таксама вызвалены ўрадам ад аплаты візаў за ўезд і выезд з Беларусі.

Стала таксама вядома аб тым, што зьезду паступілі ахвяраваньні: ад сп. А. Селівончыка з Сібіры — 20 млн рублёў, ад прыватнай асобы са Львова — 5 млн, ад Зьнешэканамбанку — 2 млн, ад прафсаюзаў — 300 тысяч, ад калгаса «Шлях Леніна» — 100 тысяч, ад некаторых прадпрыемстваў, а таксама ад сп-ні Тарасевіч — 1000 рублёў. Цікава, што нехта з трыбуны прапанаваў калгас за гэта назваць імем Першага зьезду беларусаў сьвету. Канешне, з добрай іроніяй.

### 5. Урад хоча дбаць пра дыяспару

Нікога не зьдзівіла, што сп. В. Кебіч замест сябе прыслаў на зьезд свайго намесьніка сп. М. Дземчука, які зачытаў урадавы даклад. Спадар прэм´ер, безумоўна, чуўся б не ў сваёй талерцы ў гэтай грамадзе, яму давялося б таксама пачуць малапрыемныя словы на свой адрас накшталт таго, што яму зараз спрэзэнтуюць расейска-беларускі слоўнік. Ну, але гэта ўжо эмоцыі. Дзяржаўная мудрасьць, як той казаў,— па-над усім.

Дык што ж ва ўрадавым дакладзе? Па сутнасьці, гэта справаздача з некаторымі прапановамі на будучыню. Адносна Балтыйска-Чарнаморскага саюзу сцьвярджаецца, што ён будзе другарадным побач з восьсю Эўропа-Беларусь-Расея. Апроч эканомікі галоўным клопатам названа нацыянальна-культурнае адраджэньне. «На Беларусі стала больш беларускасьці, у грамадзян Беларусі паступова зьнікае комплекс непаўнацэннасьці...» «Другі вынік — мы змаглі пазьбегнуць рэвалюцыйнасьці ў вырашэньні праблем нацыянальна-культурнага адраджэньня, што непазьбежна прывяло б нас да канфрантацыі й, што галоўнае, да канфрантацыі на нацыянальнай глебе паміж прадстаўнікамі адной, менавіта адной (!), нацыянальнасьці, што й небясьпечна, й нязвыкла, й незразумела для міжнароднай грамадзкасьці». Гм, янычары, канешне, на ўсё здольныя...

Прынята ўрадавая праграма «Беларусы ў сьвеце». У будучыні, магчыма, будзе створаны адпаведны камітэт ці міністэрства па справах дыяспары.

### 5. Гаворыць эміграцыя

Мяне ня раз пыталі потым: дык у чым жа сэнс гэтага мерапрыемства, якая практычная карысьць? Ня ведаю, як накшталт выключна матэрыяльнай карысьці (хаця майму прыяцелю, сьпеваку В. Ш. нашы замежнікі ахвяравалі грошы на запіс ягоных песьняў у добрай сучаснай студыі), але галоўны вынік у любым разе дасягнуты, а менавіта — беларускую эміграцыю нарэшце запрасілі ў бацькоўскую хату. Гэткі падарунак, у бальшыні старым людзям — на сьхіле іхніх гадоў, залічыцца ў іншым жыцьці сяму-таму з нашых сталічных грэшнікаў.

Калі на Бацькаўшчыне вынішчалі беларушчыну, перагварылі нас амаль ва ўзорна-янычарскую згодніцкую нацыю, дык яны тамака, у далёкіх Амэрыцы да Аўстраліі, трымаліся за ўсё роднае, як за найвялікшы скарб, баранілі ў сьвеце нашыя мову, Пагоню, бел-чырвона-белы сьцяг, сьветлую ідэю БНР. За гэта іх «удзячна» мянавалі дома здраднікамі. Як вядома, хто галасьней крычыць...

# Талеранцыя як вынік культуры

(Пачатак на 1-й стар.).

Кожная цывілізацыя, кожная сацыяльная сістэма, кожная нацыянальная культура, ці этнічная супольнасьць вырашалі гэтую праблему ў гісторыі, крышталізавалі яе ў рэлігійных, этнічных, ці палітычных прынцыпах, шукаючы аптымальнасьці. Універсальныя вечнасьці ці доўгатэрміновыя падставы талерантнасьці сфармаваныя Ісусам Хрыстом і выпрабаваныя гістарычна ў хрысьціянскім сьвеце. Усе палітычныя, сьвецкія, сацыяльныя этыкі й іншыя выяўленьні талерантнасьці ўлічвалі ці трактавалі па-свойму ўніверсальныя прынцыпы, калі прыстасоўваліся да зьменлівых сітуацыяў. Гэтая зьменлівасьць разьвіцьця прадвызначае й зьменлівасьць прыстасаваньня ўніверсальных ідэяў. Запозьненасьць пераменаў прыводзіць да супярэчнасьцей і нават катаклізмаў.

На мой погляд, мы назіраем пачатак такога магчымага катаклізму ў Эўропе, які паказвае на крызіс эўрапэйскай дэмакратыі. Галоўная прававая й сацыяльна-палітычная ідэя талерантнасьці, якая ўзьнікла пасьля вайны ў вольным сьвеце й якая пакладзеная ў аснову цяперашніх уяўленьняў пра дэмакратыю ў Эўропе — гэта амэрыканізаванае паняцьце правоў чалавека, дзе галоўным момантам зьяўляецца палажэньне аб першаснасьці, прыярытэце правоў асобы перад нацыяй і дзяржавай. Ідэя на працягу некалькіх пасьляваенных дзесяцігоддзяў прайшла свой тыповы шлях ад дэкляраціі да ўвасабленьня ў палітыку, ад палітыкі да ўлады, ад выяўленьня ў сістэме законаў, ад улады да законаў да прымяненьня іх у грамадзтве, ад дзейнасьці заканадаўства да сацыяльных вынікаў. Цяпер мы назіраем пачатак крызісу гэтай ідэі.

Станоўчыя сацыяльныя яе вынікі — мір і дабрабыт. Эўропа аб´ядналася на дабрабыце й імкнецца да яшчэ лепшага дабрабыту, не заўважаючы, што мір паступова пачынае зьнікаць, што разам з прыярытэтам асобы зьнікае прыярытэт нацыі, а разам з тым і дабрабыт карэннай асобы, што жыве на спрадвечнай зямлі. Мільёны нацыянальных безпрацоўных саступаюць месца таннай рабочай сіле з усходу, й ад гэтага не ратуюць ніякія абмежаваньні.

Так непрыкметна, спакваля тэзіс прыярытэту правоў чалавека, зразуметы мэханічна, пачынае працаваць супраць чалавека. Гэты крызіс ўсеабдымны. Гэта крызіс сістэмы, заснаванай на прымітыўнай аднабаковай трактоўцы ідэі. Разьвіцьцё яго можа прывесьці да таго ж выніку, да якога прывёў некалі нашу цывілізацыю прынцып «liberum veto».

Непасрэдным сацыяльным наступствам эўрапэйскага крызісу ўвасабленьня ідэі прыярытэту асобы перад нацыяй могуць стаць успышкі нацыянальна-этнічных канфліктаў, а ў палітычным плане прыход да ўлады фашыстаў і права-радыкальных сілаў. Такія вось мэтамарфозы прыгожых ідэяў талеранцыі мы назіраем у мінулым і цяперашнім жыцьці. Не сумняваюся, што Эўропа знойдзе выхад з гэтага становішча. Але пакуль што там дамінуе дэмакратычны касмапалітызм, пагрунтаваны на дабрабыце й абстрактных аднабаковых ідэях, абмяркоўваюць маастрыхскія фантазіі і т. п. палітычную бэлетрыстыку.

У заключэньне хачу адзначыць, што Беларускі Народны Фронт перад прыняцьцем новай праграмы руху дастаткова прааналізаваў гэтую сітуацыю ў Эўропе й магчымыя наступствы на шляху адраджэньня Беларусі. Мы зыходзім з тэзісу парытэту нацыі й правоў асобы. Канкрэтнае ўвасабленьне гэтага палажэньня будзе вызначацца заканадаўствам і палітыкай. Мы здаем сабе справу, якая агромністая праца наперадзе. Гэта праца на доўгі час. Асновай для яе могуць стаць, на мой погляд, здабыткі й маральныя каштоўнасьці нашай гістарычнай беларускай культуры талеранцыі й палітычная воля грамадзтва, здольная ўвасобіць у жыцьцё карысныя для сябе ідэі.

## Шаноўныя гарадзенцы!

Нашае жыцьцё набліжаецца да таго пэрыяду, калі ўсе мы мусім вырашыць, якую з палітычных сілаў падтрымаць пад час будучых рэфэрэндумаў і выбараў. Аддаючы свой голас за тую ці іншую партыю, за таго ці іншага кандыдата, кожны чалавек спадзяецца на перамены да лепшага, найперш у жыцьці й дабрабыце сваёй сям´і. Гэта ёсьць нармальнае чалавечае жаданьне. Важна толькі, каб гэты выбар ня быў памылковым. Наш народ ужо мае горкі вопыт такіх памылак. На выбарах 1990 года, карыстаючыся нізкай палітычнай сьвядомасьцю людзей, уладу ўтрымала ў сваіх руках камуністычная наменклятура. Да якіх вынікаў гэта прывяло — кожны з нас адчувае штодзённа. Адсутнасьць рынкавых рэформаў ва ўмовах разбурэньня адміністрацыйна-каманднай сістэмы штурхнула нашу эканоміку ў бездань. Адзінае выратаваньне — зьмена ўлады шляхам перамогі на будучых выбарах палітычных сіл, згуртаваных вакол ідэі адраджэньня Беларусі й здольных вывесьці нашу дзяржаву з крызісу.

Гэта нялёгкая задача, й рыхтавацца да яе, гуртаваць сілы трэба ўжо сёньня.

З гэтай мэтай Гарадзенская арганізацыя БНФ пачынае перарэгістрацыю сталых сяброў фронту, а таксама запрашае да супрацоўніцтва ўсіх, хто не жадае заставацца пасіўным назіральнікам у цяжкі для Бацькаўшчыны час.

Перарэгістрацыя сяброў Фронту праводзіцца па адрасу: вул. Савецкая, 10, каб. 1-а, кожную сераду й чацьвер з 18.30 да 20.30 або па тэлефоне 45-45-01 у гэты самы час.

Гарадзенская Рада БНФ.





# КУЛЬТУРА

## Халодны дождж у Наваградку

Усё ж неяк нязвыкла, калі сьвяты адбываюцца сярод тыдня. Парушаецца традыцыйная лёгіка жыцьця, час мінае яшчэ хутчэй і ўрэшце, калі зноў вяртаешся ў будні, пачуваешся стомленым і быццам забытым гэтым жыцьцём. Бо звычайна сьвяты — гэта мноства шматлікіх самых розных уражаньняў, асабліва калі ты ў чужым горадзе й сярод цікавых людзей, якіх сустракаеш упершыню. А яны, гэтыя людзі, блізкія й прыемныя табе, цяпер недзе далёка й, магчыма, таксама ўзгадваюць аб гэтых днях і аб табе, як і ты аб іх.

Так здарылася, што Наваградак ты ведаў толькі па кніжках, з гісторыі й яшчэ са шматлікіх аповядаў інстытуцкага сябра, з якім жыў некалі ў студэнцкім інтэрнаце й які вельмі ганарыўся сваім горадам, як і ты сваім. Праўда, я яшчэ двойчы праяжджаў праз гэты горад, але ж колькі гэта займала часу — найболей хвілін дзесяць.

На пляцы ў цэнтры, дзе засталіся толькі рэшткі мінуўшчыны, усё ж адчуваеш, што гэта некалі была сталіца. Жыве ў гэтым месцы нейкі незвычайны ўзьнёслы сталічны дух. А сябра-гісторык дадае, што з такіх вось невялічкіх гарадоў складаецца ўся Эўропа. Папросту шмат гадоў Наваградак быў савецкім, што, зразумела, наклала на яго адбітак гэтае эпохі. Толькі рэшткі замка бадай найболей не паддаюцца ніякім уплывам людзей і часу.

Наваградзкія чытаньні гэтым разам прысьвечаныя 740-ым угодкам каранацыі Міндоўга, ужо трэція па ліку. У зале дзелавая атмасфэра й прысутнічаюць большасьцю толькі навукоўцы. Арганізатары, прадстаўнікі гарадзкога Савета й гісторыка-краязнаўчага музэя шчыра, нешматслоўна вітаюць удзельнікаў і з нецярпеньнем чакаюць дакладаў. На рэдкасьць, тут зацікаўленыя людзі ў тым, каб ведаць сваю гісторыю.

Праз адчыненае вакно даносіца шапаценьне лісьця, свежы ветрык задзьмувае ў залу, сёньня сонца, нехта здарожаны, і галава ўзо ківаецца, а табе крыху сьмешна, гледзячы на гэта.

Госьць з Летувы, які належыць да калегіі Міндоўга ў Вільні, ладна адзначае, што ў Наваградку шмат робіцца для адраджэньня дзяржаваў — Беларускай і Летувіскай. Ён падкрэсьлівае, што наша дзяржаўнасьць пачалася з Міндоўга. Праўда, ён нічога ня кажа аб гэтай дзяржаве, зразумела, мае на ўвазе тое, што ўсе правы на яе належаць летувісам. І таму надалей замест таго, каб распавесьці нешта тое, што датычыць гісторыі, ён па-інтэлігэнцку гаворыць аб тым, як зараз цяжка адстойваць Летуве сваю свабоду.

Вядома, ён — прадстаўнік свайго народа, й што яму да твае Беларусі. Пераканаешся ў гэтым яшчэ раз пасьней, калі за вячэрай апынішся побач з ім за адным сталом. Ён будзе апавядаць табе зноў і зноў пра свае цяжкасьці, а ты будзеш яго слухаць і думаць толькі аб сваім.

Цешыць, аднак, тое, што фундамэнтальная гістарычная навука на Беларусі набірае сваю моц, хоць і вельмі яшчэ доўга ёй да таго, каб пачуцца роўнай сярод іншых. Мой знаёмы летувіс чырванее, калі адзін з менскіх гісторыкаў зазначае на яго выступ, што беларуская дзяржаўнасьць пачынаецца не з Міндоўга, а значна раней: з Полацкага й Тураўскага княстваў, і ў яе ўжо быў пэўны вопыт. Толькі ці хутка гэта пачнуць прызнаваць усе нашы суседзі, бо заўтра ўвечары ты ўбачыш у тэлевізары, як маскоўцы падаюць аб гэтым сьвяце толькі рэпартаж з Летувы й таксама зазначаюць гэта як летувіскае сьвята. Хоць, дарэчы, так было заўсёды: ніхто з тваіх суседзяў не хацеў прызнаваць беларускую гісторыю. Ім усім гэта было невыгодна, ды й хто яе загубіў...

Зрэшты, гэтым нічога не парадзіш, беларусам патрэбна працаваць, шмат працаваць, але цяпер на сябе. Дзіўна толькі тое, што сярод беларускіх навукоўцаў яшчэ шмат вучняў Абэцэдарскага, якія таксама ня хочуць прызнаваць беларускасьці. Для іх была заўсёды толькі Русь.

Але чытаньні накшталт Наваградзкіх з часам шмат у чым зьменяць і гэта. Толькі падумалася: шкада, што цяжкай працы гісторыкаў у архівах і з розьнымі дакумэнтамі ў нас недаацэньваюць, а паўсюдна й шмат балбочуць аб каўбасе.

Яшчэ перад вячэрай прыемная дырэктарка мясцовага гісторыка-краязнаўчага музэя запрапанавала паглядзець відэастужку аб Наваградку, якая здымалася ў 1931 годзе тутэйшымі габрэямі. Кіно на сорак хвілін было без гуку, але ўразіла тое, як мала засталося ад таго Наваградка.

Напярэдадні была ноч перад сьвятамі каранацыі Міндоўга. Заўтра ў горадзе вольны дзень. Сюды зьедуцца ўдзельнікі 1-га зьезду беларусаў сьвету, артысты са сталіцы, зыдуцца людзі з горада й навакольных вёсак.

Твае новыя сябры з Менску й Беласточчыны за тое, каб ісьці на замчышча, пасядзець пад сьветлаю поўняю і шматлікімі яркімі зоркамі, а не проста паспаць у гатэлі.

Нас набіраецца шмат. Ніна з Вашынгтону, якая таксама толькі сёньня прыляцела ў Менск і дабралася да радзімы бацькі, частуе нас каліфарнійскім смачным віном. Яна таксама не захацела спаць, хоць здарожылася пасьля пералёту з-за акіяну. Мы сьпяваем беларускія песьні й ня можам нацешыцца, што ўсе разам тут, што заўтра сьвята, што такая прыгожая ноч і такая сьветлая-сьветлая поўня над Наваградкам. Тутэйшыя дзяўчаты, што выйшлі на нашы сьпевы, дзівяцца, адкуль мы, чаму па-беларуску кажа амэрыканка й «кто такой этот Миндовг». Ім на вуха нешта шэпча Коля з праваслаўнага брацтва трох Віленскіх пакутнікаў, і, напэўна, у яго гэта нядрэнна атрымоўваецца. А ў нас не сканчаюцца размовы й песьні і, на жаль, хутка раніца.

Сьняданьне ў гатэлі падае прыгожая маладая дзяўчына з ільнянымі валасамі й блакітнымі вачыма, а ты глядзіш у вакно, бо там спора цыбаніць дождж. У фае стаўпілася група маладых гішпанцаў, адчуваецца, што ім студзёна, аднак яны гамоняць і ўсьміхаюцца. Іх дзяўчаты амаль усе падобны да Арынчы Санчэс. Такія яны, гішпанкі...

А дождж не змаўкае, калі час пачынаць сьвята, ён наадварот мацнее. Ты ўсё ж ідзеш без парасона, каб пабачыць, што адбываецца. На пляцы ўжо мноства людзей, іх не палохае дождж. На аўтобусах, з міліцыяй наперадзе, прыехалі беларусы сьвету. Іх па-сапраўднаму шмат з усіх кантынэнтаў. Яны таксама мокнуць, па чарзе забягаюць у музэй, а дождж робіцца ўсё большым.

Маладога Язэпа з Кліўлінда не страшыць гэты дождж, ты фундуеш яму наваградзкае піва, і ён з задавальненьнем яго п'е. Ён ужо студэнт, а на Беларусі, радзіме яго бацькоў, упершыню. Задаволены ўсім, і нават дажджом, і вельмі добра, як і ўсе госьці, гаворыць па-беларуску.

Зрэшты, сьвята з замчышча перанесьлі ў Дом культуры. Тут няшмат месца, пад нагамі круцяцца тэлевізійшчыкі з тоўстымі дратамі, праз слова расейскі мат, арганізатары разсаджваюць гасьцей, а на вуліцы мокнуць ужо каторую гадзіну мясцовыя людзі. Амон і міліцыянты не пускаюць іх у залу, бо не хапае месца. Быццам напалоханыя ўсім, што дзеецца, сядзяць тыя самыя гішпанцы, праўда, тут ім ужо цёпла, бо нават няма чым дыхаць.

Нарэшце зьявіўся міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. Канцэрт распачалі ўрыўкам з опэры «Князь Наваградзкі». Артысты са сталіцы ўражваюць сваім ўзроўнем, асабліва танцоры. Ты бачыш, як параскрывалі раты тыя самыя гішпанцы і падымаюць галовы, каб на гэта падзівіцца. А побач з табой сядзіць Валодзя з Аўстраліі, які сорак восем гадоў ня быў на Беларусі, і ўвесь час прыкрывае мокрыя вочы кінакамэрай. Ты бярэш яго за руку й па-сяброўску сьціскаеш, а ён толькі й можа адказаць, што першыя дваццаць гадоў на чужыне не распакоўваў нават чэмаданы, бо ўсё чакаў: вось-вось вернецца... Дзеці яго яшчэ ўмеюць гаварыць па-беларуску, а ўнукі ўжо не. Сорак восем гадоў. А ты ў гэты час узгадваеш заходне-нямецкага паэта Гюнтэра Эйха, які некалі напісаў: «Хораша ўсё ж жыць, нават зараз».

У перапынках мы спрабуем выйсьці папаліць на вуліцу, але гэты спорны дождж усё цыбаніць ды цыбаніць. Валодзя баіцца застудзіцца, ужо ня той узрост. А мясцовыя людзі так і мокнуць на вуліцы з надзеяй паглядзець яшчэ раз на беларусаў сьвету.

Увечары ты ўжо адзін у гатэлі й праз вакно назіраеш, як на замчышчы салютуюць вайскоўцы, але не ідзеш туды, бо ўжо й так за дзень вымак да апошняй ніткі.

А заўтра таксама дождж не сьціхне й цэлую дарогу да Горадні будзе цыбаніць у вакно аўтобуса, перашкаджаючы табе задрамаць.

**М. КАРНЕВІЧ.**

## Летувіс — назва звышфармальная ці дражнілка?

Нядаўна я пачуў ад усходняга радыё, як нашу новую валюту называлі літасамі. Гэта таксама ж непісьменна, як бы пра вашую сказаць рубялі. Адразу ўспомнілася абрыдлае слова «летувіс» (ці «лятувіс»?), якім паўстагоддзя назад выарашылі ахрысьціць нас вашыя эмігранты — з мэтаю адмяжавацца. Ня маю нічога супраць назвы Летува,— усё ж гэта наша афіцыйная назва, так нас называюць і латышы (мо й гэта слова ўжо заменена?), і паралель Рэспублікі Беларусь — Рэспубліка Летува гучыць урачыста. Калі вы адмаўляецеся ад маскоўскіх эталёнаў — транслітэрацый Вільнюс, Каўнас — гэта выдатна. Суседзі, калі яны сапраўды блізкія суседзі (а такімі мы былі на працягу 7 стагоддзяў, пакуль не трапілі у асобныя каморы ў турме пад назвай «где так вольно дышит человек»), заўсёды маюць свойскія назвы для суседзяў. Напрыклад, па-латыску наша сталіца завецца Вільня, а вы пра такую назву даўно забыліся, калі меркаваць па шыльдах вашых аўтобусаў і цягнікоў. Калі вам сьмярдзіць маскоўскае слова «літовец» (яно ў вуснах беларуса нам таксама непрыемнае), называйце нас больш па-заходняму ліцьвінамі — нароўні з палякамі, якія не зьбіраюцца нас перахрысьціць і для якіх русіны ўсё роўна ня стануць ліцьвінамі, як бы таго не жадалі й як бы не прымерваліся да таго. Калі ж вы лічыце, што назва «ліцьвін» занадта зьвязаная з Летувай, якая даўно распалася, дык утварайце нам назву ад назвы новай дзяржавы, як гэта зрабілі латышы (па-латыску: летуветіс) і не называйце нас ані жмудзінамі, ані жамойтамі. Гэта як называць мазурамі ўсіх палякаў ці баварамі ўсіх немцаў. Або латышоў — земгаламі. Утварайце сваё, свойскае слова з дапамогаю сваіх суфіксаў, якія трэба прыкладаць да асновы слова, да кораня, але не да канчатка. Не забывайце, што літоўскаму канчатку назоўнікаў мужчынскага роду ў славянскіх мовах адпавядае нулявы канчатак. Беларуская мова засвоіла больш 800 літоўскіх (мо «летувецкіх» ці «летувінскіх») слоў, больш 2000 балцкіх, але ва ўсіх выпадках адкінула мужчынскі канчатак. За выключэньнем адзінага слова «дзіцянё» — вайкяліс. Можа, слова «летувіс» і ёсць такое самае пацьвельваньне — ці помста за тое, што ў нашай мове вялікім імёнам прыклейваюцца канчаткі: Ленінас, Гітлеріс, Сталінас...

**Тутэйшы з Новай Вільні**
**Валдас ВАНАЙЦІС.**

**Крыніцы — «ЛіМ», «Наша Ніва», «Словарь балтизмов в славянских языках».**

## Віленскія паведамленьні

**Газавая атака.** Расейскі канцэрн «Газпром» з блаславеньня вярхоўных расейскіх уладаў спыніў пастаўкі газу ў Летуву й патрабуе выплаціць 56,6 мільёна даляраў запазычанасьці. Гэтак сама спыненыя пастаўкі газу ў Эстонію (вінаватая 10 мільёнаў даляраў) і Латвію (вінаватая 4,9 мільёна). Малдова й Беларусь папярэджаныя, бо вінаватыя адпаведна па 13,9 і 76,9 мільёна.

У Летуве запасаў газу хопіць да сярэдзіны ліпеня. Каб разьлічыцца з расейскім «Газпромам», Летува мае намер скарыстаць мэтавую пазыку Сусьветнага Банку, а таксама спагнаць са сваіх даўжнікоў. Крулявецкая вобласьць Расеі, напрыклад, вінаватая Летуве 4,3 мільярда рублёў за электраэнэргію.

**Абяцанкі.** Як ужо паведамлялася ў «Пагоні», на нядаўняй сустрэчы прэм'ер-міністраў Летувы й Беларусі спадар Кебіч паабяцаў тэрмінова разьлічыцца з даўгамі за электраэнэргію Ігналінскай АЭС. Але 30 чэрвеня прэм'ер Летувы спадар Шляжавічус заявіў карэспандэнту ЭЛЬТА: «На жаль, прэм'ер-міністр Беларусі, які цьвёрда абяцаў выплаціць частку запазычанасьці яшчэ ў гэтым месяцы, да гэтае пары слова не стрымаў...»

Між іншым, пад час тае сустрэчы спадар Кебіч паабяцаў выдзеліць 30 мільёнаў рублёў на дапамогу беларускаму аддзяленьню Віленскага Пэдагагічнага Унівэрсітэта. Няўжо таксама абяцанкі-цацанкі...

**Шляхі.** Міністры шляхоў зносін Беларусі й Летувы падпісалі дамову «Аб транспартных аўтамабільных перавозках». У дамове ўрэгуляваныя ўсе асьпекты перавозак праз тэрыторыі абедзьвюх краін. Пад час заключэньня дамовы беларуская дэлегацыя наведала Клайпэду, агледзела марскі гандлёвы порт і паромную пераправу. Падпісаны пратакол аб выкарыстаньні Клайпэдзкага порту ў інтарэсах Беларусі.

**Вынаходнікі.** Каб уратавацца ад імклівага росту коштаў кватэрнае платы й камунальных паслугаў, жыхары Летувы вынайшлі арыгінальны сродак — пачалі масава выпісвацца са сваіх кватэраў і такім чынам не плаціць. Паводле зьвестак Дэпартамэнта міграцыі такіх «падвешаных між небам і зямлёю» набралася ўжо дзесяткі тысяч.

**Паліва.** Жыхары Рокіскага раёну Летувы раптам устрывожыліся за стан свайго здароўя — у многіх пачала балець галава, іх стала ванітаваць. Прычына высьветлілася тады, калі былі праведзены аналізы паліва, якое людзі выкарыстоўвалі дзеля абагрэву дамоў. Аказалася, у свой час людзі панакуплялі авіяцыйнае газы ды ўсялякага іншага паліва для вайсковае тэхнікі. Пры згараньні гэтага паліва выбаўляюцца моцныя атрутныя рэчывы.

**«Абітура».** Сёлета ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Летувы прыём абітурыентаў будзе праходзіць без уступных экзамэнаў. Набіраць будуць паводле адзнакаў у атэстаце сярэдняй школы й субяседаваньня.

**Верніkі.** На пачатку ліпеня ў Нацыянальным парку ў Ігналіне сабраліся нэапаганцы з краінаў Балтыцкага рэгіёну. Быў запрошаны, між іншым, і беларускі цэнр этнакасмалёгіі «Крыўя». Паводле старажытных язычніцкіх абрадаў былі адсьвяткаваныя Дзень Пяруна, Дзень Лаймы, Дзень Пчолаў.

**В. С.**





*ГОРАД*

# Тут пануе любоў да Беларусі

Да нядаўняга часу падлеткі й моладзь мелі дачыненьне да піянерскіх і камсамольскіх арганізацыяў, якія цяпер па вядомых прычынах знаходзяцца ў стане занепаду. Затое на Беларусі павялічваюцца рады скаутаў. Аб 'яднаньне беларускіх скаутаў (не блытаць з Саюзам скаутаў Беларусі) узначальвае скаут-канцлер Аркадзь Данілавіч Жукоўскі. Другі год запар у маляўнічым месцы на беразе ракі Котра яно ставрае летнік.

75 скаутаў ад дзевяці да дваццаці гадоў з Горадні, Ваўкавыска, Парэчча, Ліды, Маладзечна, Баранавічаў на працягу 20 дзён маюць магчымасьць ня толькі добра адпачыць, але й паказаць свае здольнасьці, замацаваць на практыцы веды, атрыманыя пад час заняткаў у сваіх харугвах, знайсьці новых сяброў, абмяняцца вопытам. На правядзеньне гэтага мерапрыемства Камітэт па справах моладзі пры Савеце Міністраў Беларусі выдзяліў 200 тысяч рублёў, немалыя сродкі ўклаў у гэтую справу культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына».

Кожны новы дзень скауты пачынаюць з узьняцьця сьцяга на лінейцы, дзе вызначаюцца пляны, прачытаньня малітвы «Ойча наш», бо першы іх запавет — «Бог і Бацькаўшчына». Малітву аб ядзе яны чытаюць кожны раз перад тым, як сесьці за стол. З раніцы скауты працуюць у гуртках, у якіх зьвязовыя праводзяць заняткі па турызму, мэдыцыне, беларускай гісторыі й культуры. Пасьля абеду яны, калі не прадугледжаны турыстычныя выпрабаваньні, падрыхтоўка да сьвята ці пэўнага спаборніцтва, адпачываюць. Калі дазваляе надвор 'е, прымаюць удзел у спартыўных гульнях, плаваюць на лодках. Увечары скауты ля вогнішча сьпяваюць народныя й сучасныя беларускія песьні.



У гэтым лягеры, у адрозьненьне ад піянерскага, няма абслугоўваючага пэрсаналу. Скауты самі кіруюць, прыбіраюць тэрыторыю ад сьмецьця, рыхтуюць сабе ежу, для чаго прызначаюцца дзяжурныя. І іх ніхто не прымушае працаваць. Як сказаў сп. А. Жукоўскі: «Галоўнае, каб дзеці прывыклі абслугоўваць сябе».

Многія скауты добра размаўляюць па-беларуску, астатнія жадаюць навучыцца. Яны паважаюць гісторыю й культуру Беларусі. Старэйшыя распавядаюць спаборнікам аб значных гістарычных падзеях, выдатных дзеячах Беларусі. Невыпадкова ў цэнтральным намёце — партрэт К. Каліноўскага.

Скауты шануюць беларускія традыцыі й, як некалі іх продкі, сьвяткуюць Купальле. У гэтым годзе беларускія скауты гукалі Купалінку, выратоўвалі яе ад злосьнікаў, вадзілі карагоды вакол вогнішча, прымалі ўдзел у старадаўніх беларускіх гульнях, сьпявалі, шукалі папараць-кветку, скакалі праз агонь, дзяўчаты пускалі па вадзе падпаленыя сьвечы.

У апошні дзень летніка адбудзецца прыём у шэрагі скаутаў спаборнікаў (кадэтаў), якія прайшлі паўгадавы выпрабавальны тэрмін, але «курс на выхаваньне» быў для іх менавіта тут.

**А. ДУК.**

## Іншаземцы — людзі другога гатунку?

Зразумела, як мы будзем ставіцца да іншаземцаў, так і яны да нас. Жыхары іншых краін ужо некалькі гадоў дапамагаюць Беларусі пераадолець крызіснае становішча, прычым большасьць не патрабуе нічога ўзамен. А мы, здараецца, ставімся да іх як да людзей другога гатунку. Доказ гэтаму — прэйскурант цэн на білеты за карыстаньне атракцыёнамі ў старым парку Горадні. Ён сьведчыць, што іншаземец павінен заплаціць на 50 рублёў больш, чым грамадзянін Беларусі. Як жа быць з грамадзянамі Расеі ды Грузіі? А можа, нават у крамах зрабіць для беларусаў адны цэны, а для іншых — другія, больш высокія?

**А. Д.**

## Новы від сэрвісу

Незвычайны для Горадні від сэрвісу прапануюць хлапчукі, якіх, калі надвор 'е дазваляе працаваць, можна штодзень сустрэць ля гатэля «Гродна». Яны займаюцца мыцьцём аўтамабіляў. За працоўны дзень заробак складае каля пяцісот рублёў на аднаго. Некалькі разоў ім пашанцавала, калі грамадзяне Польшчы разьлічыліся з імі далярамі. Сваёй справай хлапчукі зьбіраюцца займацца на працягу ўсіх летніх канікул.

**А. Д.**

# «... Пасадка будзе аб 'яўлена дадаткова»

Які вакзал — такі й горад. Сутнасьць не мяняецца, калі, намагаючыся пусьціць пыл у вочы, будуюць мадэрновыя гмахі «на вырост», усё празмернае застаецца недагледжаным і зачыняецца.

Якое жыцьцё — такі й вакзал. Яго ствараюць ня столькі будынкі й пэроны, колькі людзкі тлум, штурханіна й няспынны мурашыны рух у розных накірунках. Вакзал — скрыжаваньне незлічоных шляхоў і маршрутаў, месца сустрэч, знаёмстваў, расстаньняў.

Нешта зьмянілася на аўтавакзале Горадні апошнім часам. Ведама, тут, як і паўсюдна, вырасьлі шапікі, што дакучліва прапануюць на кожным кроку жавальныя гумкі, цыгарэты й іншую замежную драбязу, з 'явіліся гульнявыя аўтаматы — усё гэта, з чым ужо звыклася вока. Справа ня ў гэтым. Вакзал жыве пасажырамі, гандлярамі, міліцыянтамі, асобамі, у якіх на ілбе напісана, што ня маюць яны ні пэўнага месца жыхарства, ні працы, адно толькі шнырую́ць сярод заклапочанага натоўпу ў пошуках свайго шанца.

Заўважаеш, што на пэронах міжгародняга вакзала амаль нікога не відаць,— кошт білетаў далёка апярэдзіў заробкі, й пасажыры карыстаюцца аўтобусам у выключных выпадках: калі сьпяшаюцца альбо калі ў месца прызначэньня нічым іншым, апроч аўтобуса, не дабярэшся. Натуральна, рэзка зьменшылася колькасьць маршрутаў: з 71 засталося ўсяго 50, шэраг маршрутаў існуе толькі выхаднымі днямі. У пяць гарадоў блізкага замежжа можна сёньня даехаць з Горадні — у Калінінград, Вільню, Друскенікі, Каўнас і Луцк. Праўда, у раскладзе з 'явілася і адна новая станцыя — Беласток.

— Зьніжэньне пасажырапатоку — гэта паўбяды,— гаворыць намесьнік дырэктара аўтобуснага парку па перавозках Віктар Лявонцьевіч Чыжык.— Рухомы састаў не абнаўляецца, большасьць машын падлягае сьпісаньню. Сёлета яшчэ так-сяк ад 'ездзім, а што далей будзе — невядома.

Занепад. Скасаваныя маршруты ўскладнілі некаму жыцьцё, прымусілі адмовіцца ад звычак, перарвалі сустрэчы...

Затое на прыгарадным вакзале гарадзенцы тоўпяцца з шасьці гадзін раніцы, й не ад добрага жыцьця ці бяссоньня. Прыходзіць на вакзал за гадзіну-дзьве да адпраўленьня патрэбнага аўтобуса вымушаюць умовы: прыйдзеш пазьней — не ўваб 'ешся. Прынамсі, ў прыгарадны. У дачны — куды ні йшло. Адгадка гэтай з 'явы прыкра простая: кошт білетаў на дачных маршрутах удвая вышэй за прыгарадныя. Калі ўлічыць, што сярод дачнікаў большасьць пэнсіянэраў, разумееш, чаму людзі гадзінамі сядзяць, стаяць, таўкуцца на пэронах: лішняй капейкі плаціць за праезд яны ня маюць.

Як жа склалася такое становішча? Справа ў тым, што райвыканкам Гарадзенскага раёна, клапоцячыся аб сельскіх жыхарах, знайшоў сродкі толькі для падтрыманьня прыгарадных ліній, даваць датацыі на дачныя маршруты няма каму. Ведаючы гэта, землярobы хочуць скарыстаць з прывілеяў без штурханіны з дачнікамі. Выйсьце знойдзена лёгка: трэба зрабіць маршрут нязручным для гараджаніна. Вось і звяртаюца ў райвыканкам з просьбай зьмяніць расклад руху: перанесьці адпраўленьне аўтобуса, скажам, з васьмі гадзін на палову шостай раніцы. Хто з дачнікаў дабярэцца на вакзал у такую пару? І возіць аўтобус паветра, абураюцца ў чэргах дачнікі, маўляў, езьдзяць на гарадзкім транспарце сяляне, і ніхто не чыніць ім перашкод, хаця тут датацыю аплочвае гарвыканкам з кішэні гараджаніна.

Хацелася б ухваліць клопат улады аб пэнсіянэрах, інвалідах, але відавочна й рацыя гараджаніна. Зрэшты, датацыі ніколі не былі й ня будуць сродкам дасягненьня роўнасьці й справядлівасьці. Адзін карыстаецца аўтобусам штодзень, а другі, магчыма, раз у год. Першы такім манерам возьме з бюджэту раёна тысячы рублёў, а другі — капейкі. Калі гэта й справядліва, дык толькі па камуністычнай шкале каштоўнасьцяў.

— Уявіце: 62 працэнты жыхароў карыстаюцца ільготамі на праезд у прыгарадным аўтобусе ,— гаворыць Віктар Лявонцьевіч. Датацыі, што дае райвыканкам, не стае, каб перакрыць нашы выдаткі. А дадайце сюды яшчэ ільготы для студэнтаў...

Намесьнік дырэктара разводзіць рукамі. Ніколі, нават у так званыя застойныя гады, мы не былі так блізка да камунізму, як цяпер, калі краіна «сваім уласным шляхам» крочыць да рынкавай эканомікі.

Шызы смурод валіць з-пад «ікарусаў», штурмам бяруць аўтобусы пасажыры. І усюды — чэргі, спрэчкі, лаянка. Адзін заўзята даводзіць, што займацца дачай цяпер ня варта. Ніхто яму не пярэчыць. Мусіць, стаміліся, альбо думаюць гэтаксама.

Зусім іншы інтарэс назьбіраў і трымае натоўп каля гандлёвых палатак. Тут — торжышча для пасажыраў і ўсіх спрагнёных. І таму што справа гэта не зусім легальная, робіцца яна без мітусьні, ціха, дзелавіта. Цыгарэты, піва, гарэлка, віно пераважна надзвычай нізкага гатунку, так званае пойла ці балбанэс (вельмі трапная назва!), карацей кажучы,— усё тое, ў чым адчуваюць патрэбу раніцой людзі, тут ёсьць. І лішні раз дзівішся развагоротлівасьці самадзейных гандляроў, якія нічога ня чулі пра маркентынг, але безпамылкова вызначылі месца, час і тавар, каб рабіць грошы. Палаткі яшчэ зачыненыя, міліцыянты з 'яўляцца пасьля васьмі гадзін раніцы, а жадаючых апахмяліцца ці закурыць процьма. Цэны бязбожныя, але гандаль ідзе жыва. Шархацяць «зайчыкі» й «ленінкі», адыходзяць з набыткам задаволеныя пакупнікі, з надзеяй (час абмежаваны!) заглядаюць у вочы ранішняга натоўпу гандляры.

Некаторыя з наведвальнікаў торжышча тут, за палаткамі, адразу й пьюць. Гэтыя нікуды не ад 'яжджаюць.

Прынамсі, адна гандлёвая палатка ўсё ж такі адчынілася. Можна меркаваць, што падзея гэта рыхтавалася на высокім узроўні: «каб навесьці парадак». Тут і піва, і цыгарэты па «магазінных» цэнах, але пакупнікоў, як ні дзіва, не відаць. Прадаўшчыца, быццам пахавала каго, абыякава глядзіць перад сабой, ніхто не турбуе яе. Лафа! Дзяржгандаль ува ўсёй сваёй прыгажосьці. Ні табе рэклямы, ні табе звычайнай шыльды «Піва». Канкурэнцыю з прыватнікамі такім манерам ня выйграць, калі, зразумела, не дапаможа міліцыя. І праўда, недзе а палове восьмай каля гандляроў рэзка, нібы зарыўшыся ў асфальт, спыніўся «жыгуль», з якога выскачылі два міліцыянты ў цывільным. Схапілі, ведама, першу-лепшу жанчыну, што забылася на асцярожнасьць і не пасьпела схаваць у кайстру бутэльку піва. Запіхалі цётку ў машыну, колькі хвілін патаўкліся вакол свайго легкавіка, пагрозліва пазіраючы навакол, і паехалі — графік ёсьць графік, а тут сваю справу яны зрабілі фахова.

Прыглушаны фонам, загучаў з дынамікаў вакзала бязколерны голас дыспэтчара: «... затрымліваецца па тэхнічных прычынах. Пасадка будзе аб 'яўлена дадаткова».

Аўтобус затрымліваецца... Якая драбяза, хаця й хлусня адначасова: не па тэхнічных прычынах, а па звычцы не думаць пра асобнага чалавека, які спадзяваўся паспець, ў якога цяжкае й вельмі кароткае — з-за чэргаў, лаянак і «тэхнічных» прычын! — жыцьцё. А за абяцаньні аб 'явіць пасадку дадаткова — дзякуй, якіняк, але сэрвіс.

**Б. В.**

## Кватэры для заможных

У занёманскай частцы Горадні па вуліцы Гагарына заканчваецца будоўля дома-прыгажуна. Вядзе будоўлю вытворча-камэрцыйнае аб 'яднаньне «Маналіт». У доме будуць кватэры на адным і двух паверхах. Па замове пакупніка кватэры такой могуць быць абсталяваны кандэцыянэрамі, аздоблены ў колеры, якія да густу гаспадару. Каштуе такая кватэра 12 тысяч даляраў.

**Г. У.**





# ГРАМАДЗТВА

## Падарожжа па фурманку

Гэтая падзея адбылася ў калгасе імя Я. Сьвердлава Пінскага раёна. Не зьбіраючы сходу й не гаворачы доўгіх прамоў, праўленьне калгаса прапанавала сялянам брацъ зямлю ў арэнду. Вяскоўцы бралі хто колькі адужае. Узяў больш за два гэктары ды ў дадатак ладны кавалак сенажаці й мой бацька. Але калі першы этап па разьдзелу былых калгасных палёў скончыўся, высьветлілася, што апрацоўваць атрыманыя палеткі няма чым. Хамянуліся арэндатары тудысюды, да праўленьня ня раз зьвярталіся. А тыя ім у адказ: вы цяпер уласьнікі — за трактар, за сельгасінвэнтар, за паліва плаціце ў калгасную касу, а тады мы вам дапаможам. Забедавалі «уласьнікі», хацелі ўжо зямлю назад калгасу вярнуць. Але сярод іх знайшліся кемлівыя, пачалі яны па сьметніках ды чарметах зьбіраць кінутае «народнае» дабро. Некаторыя так захапіліся, што праз пэўны час мелі самаходна-самаробныя сельскагаспадарчыя прылады. Пашчасьціла й майму бацьку, ён таксама прыдбаў са звалкі пэўны сельгасінвэнтар. Але па-ранейшаму пытаньне з рухомай сілаю было галоўным. Дзе набыць трактар ці хоць які-небудзь мотаблёк? Ня раз думаў ён бяссоннымі начамі аб гэтым. Выйсьце падказаў час — родны калгас па вясьне распачаў продаж коней. Вось тут бацька й ськеміў. Хуценька плетануў на стайню й выбраў сабе маладога жарабца, якога назваў Васькам. Але ж калі й гэтае пытаньне ўдалося агораць, выявілася новая бяда. Рухомая сіла ёсьць, прылады ёсьць, а як іх вывезьці ў поле? Не пакладзеш жа плуг ці барану сабе на плечы й не панясеш... Выйсьце было адно: трэба шукаць фурманку. Але ж дзе ты яе знойдзеш? Калгасныя даўно згнілі, каваля, каб зрабіць новую, ў калгасе няма. Так бы й застаўся мой продак ні з чым. Але аднойчы, гледзячы па тэлевізары інфармацыйную праграму, бацька учуў, што ў Шчучынскім раёне ёсьць завод, які па наяўнаму й безнаяўнаму разьліку прадае тыя самыя фурманкі. Нядоўга думаючы, ён асядлаў Ваську, узяў грошы, прыхапіў харчу й рушыў у дарогу. Калі красавіцкай раніцой непадалёк сваёй гарадзкой кватэры я ўбачыў вершніка, то вачам сваім не паверыў. На кані ганарова ўзвышаўся мой бацька й задаволена ўсьміхаўся. Аказалася, што каб даехаць з Пінска да Горадні на кані, спатрэбілася аж чатыры дні. На пытаньне, дзе ж ён начаваў з канём, быў адказ: сьвет не без добрых людзей. Начаваў па вёсках, звычайна выбіраў тыя, дзе бачыў царкву. Гаспадары вясковых хат ахвотна бралі падарожніка на начлег. А калі даведваліся пра тое, з якой нагоды ён падарожнічае, прымалі, як дарагога госьця.

Асабліва запомнілася бацьку вёска Ёдчыкі Пружанскага раёна. Гаспадар хаты, у якой ён прыпыніўся, даведаўшыся пра турботы, вельмі расчуліўся, казаў, што гэтыя бальшавікі ня здольны дапамагчы чалавеку, а толькі здольны маніць ды красьці.

Пераначаваўшы ў Горадні, бацька накіраваўся да Шчучына. Разам з ім, але на легкавіку, паехаў і я. Толькі пад вечар даехаў ён да пажаданай вёскі Вялікае Мажэйкава, дзе яго чакаў воз і некаторыя сельскагаспадарчыя прылады.

Возам бацька быў задаволены, ён пастукваў кійком па гумовых апонах і казаў: «Вось гэта тэхніка! Зімой і летам будзе выручаць».

Ваську запрэглі ў фурманку, на якой утульна ўладкаваўся бацька. Ён турзануў лейцамі каня, крануўся. Раменныя папругі паскрыпвалі, а бацька ад задавальненьня засьпяваў. Я правёў яго за вёску, там мы разам вызначылі яму новы маршрут. На гэты раз шлях ляжаў праз Наваградчыну, бо так было бліжэй. Праз некалькі дзён пасьля пакупкі бацька затэлефанаваў мне з дому, сказаў, што ён выдатна даехаў. Толькі было адно невялічкае здарэньне. Бліз Баранавічаў Васька згубіў падкову. Дапамаглі яму ў бядзе вясковыя людзі, жыхары вёскі Вышкава. Яны бязплатна далі падкову й дапамаглі падкаваць каня. Далей бацька паведаміў, што ён навазіў ужо дроў на новай фурманцы, нават пазычаў яе сваім аднавяскоўцам. Тыя хваляць бацьку за кемлівасьць і таксама зьбіраюцца паехаць у далёкае падарожжа за пакупкамі.

**Г. У.**

## СМБ падтрымліваюць дзядзькі з Саўміна

У чэрвені ў Горадні ладзілася справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя Саюза Моладзі Беларусі. Калі дакладней, то канфэрэнцыя былых камсамольцаў, якія хуценька зьмянілі сваю назву. Усяго з вобласьці набралася 37 дэлегатаў, адданых ленінцаў, а таксама прысутнічаў госьць ЦК — ураджэнец Горадні А. Фядута. Сярэдні ўзрост у маладзёнаў — 27 гадоў, сярод іх адзін студэнт і адзін школьнік.

Як зазначыў першы сакратар абкама СМБ А. Дзікевіч у сваім справаздачным дакладзе, пасьля жніўеньскіх падзей 1991 года з боку ўладаў розных узроўняў супраць СМБ быў прыняты шэраг такіх дзеяньняў, якія ня толькі абмежавалі дзейнасьць, але й аказалі дрэнны ўплыў на далейшы лёс арганізацыі. Менавіта тады значна скарацілася членская база, пагоршылася фінансавае становішча, а гэта, у сваю чаргу, прывяло да рэзкага скарачэньня кадраў. Сёньня, бачыце, у некаторых раёнах сакратары СМБ працуюць выключна на грамадзкіх пачатках.

Адзін з галоўных шляхоў для выратаваньня становішча — вызваленьне лідэра, каб сакратары абавязкова займалі нядаўна ўведзеныя пры гарадзкіх і раённых выканкамах пасады загадчыкаў аддзелаў па рабоце з моладдзю й пры гэтым атрымлівалі там грошы, а палітыку ажыцьцяўлялі б СМБ. Таму што, як неаднойчы падкрэсьлівалася выступанцамі, з моладдзю яны ўмеюць працаваць пасапраўднаму, пафэсійна.

Адно з важнейшых пытаньняў — падрыхтоўка да выбараў, хоць СМБ арганізацыя грамадзкая. Але дэлегаты вырашылі, што трэба ўступіць у блёк з тымі, хто падзяляе іх ідэі. А падзяляе іх ідэі толькі КПБ.

Таварыш з ЦК запэўніў, што ня ўсё яшчэ страчана, бо ў Саўміне да іх ставяцца даволі лагодна й пад некаторыя праграмы й мерапрыемствы па працы з моладдзю, якія яны распрацавалі, выдзяляюць сродкі. З гэтага трэба абавязкова скарыстаць, каб аднавіць работу асабліва сярод вучняў школ.

Дасталося крыху крытыкі ў бок гарадзенскай газэты «Молодежный курьер», заснавальнікам якой зьяўляецца СМБ. Маўляў, прапагандуюць сэкс, а не ідэі Леніна. Аднак рэдактара Л. Ластачніку зноў абралі ў бюро.

Урэшце ў прынятай рэзалюцыі былыя камсамольцы вырашылі, нягледзячы на цяжкасьці з фінансамі, прымаць канкрэтныя меры па арганізацыйнаму ўмацаваньню Саюза моладзі. Зноў першым абраны А. Дзікевіч, які пры вабласным савеце займае зараз пасаду загадчыка аддзела па рабоце з моладдзю.

**(ав).**

## Фонд «Шаулічы»

Пяцьдзесят гадоў назад, у ліпені 1943 года фашысты зьнішчылі жыхароў вёскі Шаулічы, што на Ваўкавышчыне. Вёска пасьля так і не адрадзілася. Аб той трагэдыі нагадвае сёньня мэмарыяльны абеліск.

Кожны год 7 ліпеня прыяжджаюць сюды людзі ня толькі з Ваўкавыска, але й з іншых раёнаў Беларусі, каб ушанаваць памяць ахвяр вайны. На гэтым тыдні тут адбыўся жалобны мітынг. Былі ўскладзены вянкі й кветкі, прагучалі словы аб тым, што трагэдыю спаленай вёскі нельга забыць. Нельга забыць злачынствы фашызму. Гэта як вечны напамінак аб тых жахах, якія нясе вайна.

Мэмарыяльны абэліск у Шаулічах патрабуе пастаяннай увагі й клопату. Па рашэньню прэзідыума раённага Савета народных дэпутатаў створаны фонд «Шаулічы», у які будуць паступаць добраахвотныя грашовыя склад кі. Разьліковы рахунак фонду — 000142104 у Ваўкавыскім аддзяленьні Аграпрамбанка. Першыя дзесяткі тысяч рублёў паступілі ўжо ў фонд «Шаулічы» ад прадпрыемстваў і арганізацый Ваўкавыска.

**М. ДУБРАВІН.**



Фота А. МАКАРАВА.

## Нядзельныя замалёўкі

Гарадзенскі рэчавы рынак... Сюды ў выхадныя дні прыяжджае вялікая колькасьць людзей з усіх рэгіёнаў былога Саюза, сюды з самага ранку едуць у перапоўненых аўтобусах і тралейбусах гарадзенцы. Што іх вабіць тут? Магчымасьць па больш нізкім кошце, чым у іншых месцах, купіць рэчы іншаземнай вытворчасьці, каштоўней прадаць набытае ў дзяржаўных крамах? Тут прапануюць усё, што душа пажадае: ад нітак і ношанага абутку да складанай хатняй тэхнікі й аўтамабіляў. Мала што зьмяняецца на торжышчы: у залежнасьці ад пары года — асартымэнт абутку й адзеньня, у залежнасьці ад надвор'я — колькасьць пакупнікоў і гандляроў, у залежнасьці ад сэзону, моды, інфляцыі — кошты на рэчы. Здаецца, ніхто й нішто ня зможа парушыць сам сабою наладжаны парадак.

Мінулая нядзеля была падобная да папярэдніх. З ранку гандляры занялі свае месцы, расклаўшы тавар хто на лаўках, хто на капотах легкавікоў, хто проста на зямлі, падклаўшы газэту, стварыўшы гэтым своеасаблівы лабірынт, па якому рухаецца паток пакупнікоў. Свой пачатак ён бярэ ад прыпынку грамадзкага транспарту. Паволі ідучы (бо хутка немагчыма) у гору, пакупнікі знаёмяцца з разнастайнымі ўзорамі вырабаў, якія ім прапануюць вынаходлівыя камэрсанты. Гандаль вядзецца таксама вакол агарожы, уздоўж чыгуначнай каляі, непадалёк могілак. На падыходзе да торжышча сустракаеш жабракоў, зборшчыка ахвяраваньняў на будаўніцтва праваслаўнага храма, гурт юнакоў, якія сьпевамі й музыкай зарабляюць грошы. Некалі бяз іх не абыходзіўся ніводны кірмаш, яны ж сталі неад'емнай часткай «таўкучкі».

Гандляры паводзілі сябе па-рознаму. Адны ставяцца да кожнага пакупніка дабразычліва, ня супраць паразмаўляць, могуць таньней прадаць рэч, дапамогуць, калі трэба, прымерыць і абавязкова запэўняць, што, не набыўшы яе, вы нават

(Працяг на 8-й стар.).

